„NIWA" TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr

# Ніва

№ 24 (120) БЕЛАСТОК, 15 ЧЭРВЕНЯ 1958 г. ГОД III



*Выступае дзяляціцкі хор.*

# З беларускай песняй і танцам па Беласточчыне

Прыгожы, сонечны дзень, быў у нядзелю, 8 чэрвеня г. г. Да граніцы з боку Савецкай Беларусі пад'ехалі 3 вялікія аўтобусы. Падняўся гранічны шлахбаум у Кузніцы, пагранічнікі ўзялі пад казырок і аўтобусы павольна пераехалі на Беластоцкую зямлю. Гэта з беларускай народнай песняй і танцам прыехала на Беласточчыну харавая капела Дзеляціцкага калгаса «Сцяг Советаў» на Гродзеншчыне. Дарагіх гасцей віталі прадстаўнікі ваяводскіх улад. Карагод самаходаў накіроўваецца ў Беласток.

Дзеляціцкая харавая капела ўжо 30 год праслаўляе беларускія, рускія, украінскія, польскія народныя песні і танцы. Бачылі яе калгаснікі, жыхары гарадоў, яна неаднойчы займала першае месца на фестывалях моладзі, дзе адбываліся агляды калектываў мастацкай самадзейнасці. Мастацкім кіраўніком і дырыжорам гэтага заслужанага самадзейнага калектыву з'яўляецца малады, таленавіты кампазітар П. Радаліцкі.

Нядзельны вечар. Тэатральная зала ваяводскага праўлення ТПП-Р у Беластоку была запоўнена жыхарамі горада. Пры ўваходзе ў залу натоўп людзей. Нажаль няма ўжо больш месц. Не ўсе мелі шчасце глядзець выступленні калгаснай харавой капелы. А трэба сказаць, што было на што паглядзець.

Рассоўваецца занавес і вачам прысутных прадстаўляецца гама каляровых, прыгожа вышытых беларускіх народных убораў. У зале падымаецца хваля не змаўкаючых бурных апладысментаў. Харавая капела распачынае сваю праграму песняй «Партыі слава». Плывуць адна за другой беларускія, польскія, рускія народныя песні: «Ой Нёман, бацька наш Нёман», «Зязюля», «Вараг», «Нёман і Вісла» і шмат іншых задушэўных песень. Як спадабаліся гэтыя песні ў выкананні харавой капелы жыхарам Беластока, сведчаць найлепш доўгія, гарачыя воплескі і «біс». Таксама спадабаліся салісты.

Не было канца воплескам, калі пры акампаніяменце баяніста выступіла Н. Карнацкая з выкананнем «Дзявочых напевак». Адказваючы на патрабаванні гледачоў, Н. Карнацкая была вымушана праспяваць песню, якая нават не была прадугледжана праграмай.

Вельмі горача быў сустрэты Е. Гарэлік, які выканаў «Зорку Венеру».

Не менш горача прысутныя сустрэлі дуэт Л. Сіткевіч і Э. Каршакоўскай, якія праспявалі беларускую народную песню «У канцы грэблі шумяць вербы».

На сцэну паважна выходзіць невялікі, 12-ці гадовы хлопчык. Гэта Л. Годаў. У руках — мала меншы за яго баян, і па зале плывуць чароўныя гукі паланеза Агінскага. Проста не верыцца, што дзіця так па-майстэрску можа іграць.

А танцы?..

Ці гэта была «Лявоніха», ці «Рускі танец», ці «Украінскі танец», — жвавасць, грацыя, бадзёрасць не зыходзілі са сцэны, выклікаючы вялікае захапленне гледачоў.

Не меншую зацікаўленасць выклікалі і акрабатычныя выступленні.

Мноства кветак, якія з'явіліся ў руках дзеляціцкіх артыстаў, найлепш сведчаць аб тым, з якой цеплынёй іх сустрэлі жыхары Беластока.

В. БАРШЧЭЎСКІ
А. АМІЛЬЯНОВІЧ

* * *

Панядзелак. Хмары засланяюць сонца. Крыху душнавата. Паабапал шасэ, насустрач бягуць узлессі, гаі і уросшыя ў чэрвеньскую зеляніну вёскі. Дзеляціцкая капела едзе на другое выступленне — у Семятычы — на самы поўдзень Беласточчыны.

* * *

Тут іх прывітала бітком запоўненая слухачамі зала мясцовага клуба. Тэмпературу духаты ўзмацняла напружанасць, нецярплівасць чакання. Вось рассунулася заслона сцэны, перад вачыма панарама капелы, вось грымнулі першыя песні, затуманілі ўсхваляваныя думкі гледачоў і дарагіх гасцей аглушальныя апладысменты — штораз смялейшыя воклічы «біс».

*Працяг на старане 2.*



*Пасля канцэрта ад калектыву мастацкай самадзейнасці пры ГП БГ-КТ букеты прыгожых кветак уручыла дырыжору Надзя Кананьчук.*

## З пасяджэння Прэзідыума ГП БГ-КТ

6 чэрвеня г. г. адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума Галоўнага Праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. На пасяджэнні абмяркоўваліся выдавецкія, гаспадарчыя і арганізацыйныя справы нашага Таварыства. Адносна выдавецкіх спраў было пастаноўлена паклікаць да жыцця Выдавецкі аддзел ГП БГ-КТ, які будзе арганізаваны пры рэдакцыі «Ніва». На кіраўніка Выдавецкага аддзела быў пакліканы сакратар «Нівы» М. Баравік. У Аддзеле будзе працаваць адзін штатны працаўнік. Прэзідыум вырашыў выдаць дзве грамафонныя пласцінкі па 1000 штук з беларускімі песнямі.

Многа месца на пасяджэнні прысвячалася гаспадарчым справам. У першую чаргу разглядалася дзейнасць паклікага 3 месяцы таму назад Праўлення прамыслова - гаспадарчага прадпрыемства «Бэтэска». Прэзідыум ГП на пасяджэнні прыняў пастанову, якая рэгулюе прававую залежнасць Праўлення «Бэтэскі» ад ГП Таварыства. На пасяджэнні было пастаноўлена падтрымаць ініцыятыву беларускага актыву ў напрамку арганізацыі кааператыўнай дзейнасці ў малых мястэчках і вёсках. У першую чаргу прэзідыум пастанавіў дапамагчы Аддзелу Таварыства ў Міхалове, які праяўляе ініцыятыву ў напрамку выкарыстання мясцовых залежаў торфу.

Вырашана таксама выпрацаваць формы цяснейшай сувязі Таварыства з насельніцтвам беларускіх вёсак. З мэтай паляпшэння працы Аддзелаў Таварыства, у Галоўным Праўленні будуць адбывацца нарады з удзелам старшынь і сакратароў. На нарадах будуць абмяркоўвацца працы паасобных аддзелаў. Галоўнае Праўленне займаецца апрацаваннем інструктажа, які будзе дапаможнікам у штодзённай працы аддзелаў Таварыства.

ВІКТАР ШВЕД
Сакратар ГП БГ-КТ



*Наймалодшы артыст-баяніст Л. Годаў.*

## Паўстала Беларускае літаратурнае аб'еднанне ў Беластоку

У нядзелю, 8 чэрвеня, у Беластоку адбыўся арганізацыйны з'езд Беларускага літаратурнага аб'еднання. На з'езд прыехалі дэлегаты з розных куткоў Польшчы, якія творча праявілі сябе на старонках «Нівы». З'езд паклікаў праўленне і прыняў статут аб'еднання. Пастаноўлена, што аб'еднанне будзе гуртавацца пры рэдакцыі «Ніва» і будзе выдаваць літаратурную старонку.

Старшынёю аб'еднання выбрана Георгія Валкавыцкага, сакратаром — Віктара Шведа, скарбнікам — Мацея Канапацкага.

Аб заданнях аб'еднання напішам у першай літаратурнай старонцы, якая выйдзе 29.VI.58 г

## Беларуская Савецкая Энцыклапедыя

У Акадэміі навук БССР створана камісія пад старшынствам віцэ - прэзідэнта Акадэміі К. К. Атраховіча (Крапівы) па падрыхтоўцы да выдання Беларускай Савецкай Энцыклапедыі.

Энцыклапедыя з'явіцца сістэматызаваным зводам ведаў, у якім будуць адлюстраваны вялікія заваёвы беларускага народа, дасягнутыя за гады савецкай улады пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі, паказаны поспехі ў галіне эканомікі, навукі, культуры, мастацтва, асветлена гістарычнае мінулае Беларусі, дадзена характарыстыка яе прыродных і геаграфічных асаблівасцей. У энцыклапедыі чытач зможа знайсці звесткі пра вядомых дзеячоў беларускага народа. Выданне Беларускай энцыклапедыі разлічана на параўнаўча кароткі тэрмін з тым, каб у 1956 годзе яе выпуск быў закончан. Энцыклапедыя будзе выдавацца ў дзесяці тамах, кожны том аб'ёмам у 80 друкаваных аркушаў, тыражом у 15 тысяч экземпляраў. (БЕЛТА)

## «Сувальшчына» выязджае ў Гродна

У рамках дагавору паміж Гродзенскай вобласцю і Беластоцкім ваяводствам, 18 чэрвеня г. г. выязджае ў Гродна вядомы беластоцкі калектыў песні і танца «Сувальшчына». Выступіць ён з сваімі канцэртамі ў Гродна і ў шматлікіх мясцовасцях вобласці.

У сваім рэпертуары мае «Сувальшчына» і беларускія песні. (с. я.)

## Слухайце беларускія перадачы беластоцкага радыёвяшчання

Пры Польскім Радыё ў Беластоку паўстала Рэдакцыя беларускіх перадач. Першая радыёперадача на беларускай мове адбылася 13 чэрвеня (у пятніцу) і працягвалася ад гадз. 16.05 да гадз. 16.20.

Слухайце наступныя перадачы ў кожную пятніцу ў той-жа самы час на хвалях Беластоцкага Радыё

